НАРОДНЫЯ ВЫБРАННІКІ! ЧАС ДОЎГІХ РАЗМОЎ МІНУЎ. ПАТРЭБНЫ КАНКРЭТНЫЯ РАШЭННІ. НАРОД БЕЛАРУСІ СТАМІЎСЯ АД НЯПЭЎНАСЦІ. ДЫК ДАЙЦЕ Ж ЯМУ НАДЗЕЮ НА ДОБРУЮ БУДУЧЫНЮ...


# ЗВЯЗДА

11 САКАВІКА 1992 г. серада, № 51 (21829)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.


**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 6.35, 18.05, 11.30;
Віцебск — 6.26, 17.54, 11.28;
Магілёў — 6.24, 17.54, 11.30;
Гомель — 6.18, 17.54, 11.36;
Гродна — 6.48, 18.22, 11.34;
Брэст — 6.50, 18.22, 11.32.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 12 сакавіка.

**ІМЯНІНЫ:**
Пракопа, Ціта;
Венедыкта, Канстанціна.

## РОЗГАЛАС

### СПРАВА НОВАЯ. ЦІ ДОБРАЯ?

БАБРУЙСК. **(В. Зіноўскі).** Днямі пасля рамонту ў горадзе адкрыўся магазін «Зрабі сам». Здавалася б, добрая навіна, але...

Рамонт быў выкліканы пераабсталяваннем гэтай гандлёвай кропкі ў паўкамерцыйны магазін. Так, у ім на палавіне плошчаў размясціўся аддзел, дзе без купонаў і талонаў, але па немалых цэнах, можна набыць адзенне — курткі, сарочкі, прадукты харчавання, гарэлку і іншае. Гэта быў адзіны ў горадзе магазін, дзе майстравыя людзі, якія не маюць тоўстых кашалькоў, маглі танна купіць адходы вытворчасці і будаўнічыя матэрыялы, каб добраўпарадкаваць кватэру ці дачу. Цяпер хатнія ўмельцы пазбавіліся такой магчымасці. Шкада, што заглухла такая добрая справа, як продаж насельніцтву адходаў вытворчасці, якія ішлі ў справу, а не на звалку.

### Ідуць па гораду вякі

**БРЭСТ (Ю. Фёдарава).** Аднаму з унікальных археалагічных музеяў рэспублікі — музею «Бярэсце» споўнілася 10 гадоў.

«Бярэсце» — гэта паселішча, на месцы якога і ўзнік, як сведчыць летапіс, у 1019 годзе горад Брэст.

Вялікія раскопкі правялі тут беларускія вучоныя, па арыгінальнаму метаду ажыццявілі кансервацыю старадаўніх пабудоў. У экспазіцыі — прадметы з жалеза, бронзы, керамікі, скуры. Мяркуючы па іх, берасцейцы былі добрымі кавалямі і бондарамі, земляробамі і нават ювелірамі.

Старадаўняе паселішча ў міжрэччы Заходняга Буга і Мухаўца за 10 гадоў існавання музея наведала больш як паўтара мільёна чалавек.

### ГРАНІЦА НА ГОРНАЙ РАЦЭ

**ТАДЖЫКІСТАН. Пакуль існуюць граніцы, будуць і пагранічнікі. Праца іх пакідае мала часу на сон і адпачынак, пастаяннае напружанне — звычайны стан. Граніца паміж Таджыкістанам і Афганістанам нагадвае аб нядаўняй вайне. У прыгранічных сёлах Афганістана жывуць людзі, якія здаўна ўваходзяць у ваенізаваныя групоўкі і маюць добрую ваенную падрыхтоўку. Колькасць пераходаў граніцы ўвесь час павялічваецца. Толькі на працягу студзеня гэтага года на Н-скай заставе затрыманы 13 парушальнікаў. У асноўным гэта золатамыйшчыкі.**

**НА ЗДЫМКУ: радавы М. Шарай з Беларусі служыць на граніцы ў Таджыкістане.**

МЫ МЯРКУЕМ ТАК. А ВЫ?

## Парламент зробіць ход канём?

### СЁННЯ Ў МІНСКУ ПАЧЫНАЕЦЦА ДЗЕВЯТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Як і на папярэдніх васьмі, і на гэтай сесіі будзе горача. Гэта адназначна. Калі раней усе мы палохалі адзін аднаго нейкімі ўяўнымі тупікамі, безданямі, крызісамі, інфляцыяй, купонамі, талонамі і г. д., і да т. п., дык цяпер—сёння — гэта ўжо рэальнасці. Жорсткія, прыніжаючыя чалавечую сутнасць, годнасць і існасць, рэаліі жыцця. Дык што: чарга за эканамічным крахам, холадам і голадам?! А там — бунты, рабаванні, грамадзянская вайна?!

Божа, няўжо!

Няўжо наша Бацькаўшчына не можа існаваць без усяго гэтага? Няўжо зноў для «навядзення парадку» патрэбна «жорсткая рука», «дыктатура»? Няўжо не можам, не ўмеем мы жыць па-людску? Няўжо няма наогул альтэрнатывы аўтарытарызму?

Прабач, чытач, за яшчэ адно «няўжо»: няўжо мы сапраўдны дурдом?!

...Шмат гадоў — цэлыя стагоддзі — назад чалавецтва распачало барацьбу з прыроднымі сіламі. Спачатку з каменя высекла іскру: з натуральнага каменя натуральную іскру, а не тую, якой ледзь не стагоддзе грэліся мы... Ва ўмовах засухі чалавек навучыўся вырошчваць ураджай. Далей — болей: тут і расшчапленне атама, і палёт у космас, і з'яўленне зямляніна на Месяцы, і інш. Ды атрымаўся парадокс: навучыўшыся барацьбе з сіламі прыроды, чалавецтва пачало само сабе ўзводзіць штучныя грамадскія перашкоды. Дыктатура пралетарыята і планавая эканоміка, сацыялістычны выбар і рэгіянальны гаспразлік — якіх толькі глупстваў не цярпеў ужо савецкі народ—«новая гістарычная супольнасць людзей»!

Вось і даводзіцца зараз разлічвацца за ўсё...

...Дзевятая сесія беларускага парламента, пасля зацвярджэння свайго парадку дня, мяркуючы па ўсяму, пачнецца з даклада Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча аб выкананні заканадаўчых актаў РБ аб падаткаабкладанні. Хітра закручана пытанне, ох, як хітра! Яго абмеркаванне будзе цяжкім выпрабаваннем для Вячаслава Францавіча, паколькі народныя дэпутаты будуць не толькі слухаць яго, а і «біць». «Біць» балюча, моцна і адкрыта, бо падаткавая палітыка, прынятая парламентам усяго некалькі месяцаў назад па прапанове ўрада, не толькі скампраметавала **сам** урад (ды і **сам** Вярхоўны Савет), а і выклікала ў рэспубліцы хвалю гневу, пратэсту і ўзрушэнняў. Чаго варты толькі адзін факт: месяц назад недавер'е парламенту Рэспублікі Беларусь за «некампетэнтнасць, непрафесіяналізм, адрыў ад рэальнага жыцця і патрэб народа», што праявілася ва ўстанаўленні непамерна высокіх падаткаў на прыбытак, дабаўлены кошт, нерухомасць, выказаў аб'яднаны пленум дзесяці (!) творчых саюзаў рэспублікі. Дарэчы, на мінулым тыдні беларуская творчая інтэлігенцыя — гонар і сумленне нацыі — аб'ядналася ў Асацыяцыю творчых саюзаў, а яе прэзідэнт народны артыст Мікалай Яроменка атрымаў даручэнне «прабіцца» на высокую трыбуну цяперашняй сесіі і расказаць не толькі аб бядотах беларускай нацыянальнай культуры, а і аб намерах калег паўстаць на абарону сваіх інтарэсаў і правоў.

І гэта праблема сёння жорстка «карае» не толькі нас — журналістаў і літаратараў, кампазітараў і артыстаў, скульптараў і дызайнераў, мастакоў і кінематаграфістаў... У прамым сэнсе слова стогнуць ад падаткаў прамысловыя прадпрыемствы і ўстановы, сельскагаспадарчыя калектывы і фермеры, кааператары і наогул усе без выключэння працаўнікі. Як стала вядома з кампетэнтных крыніц, урад рэспублікі мае намер прапанаваць парламенту адступны манеўр. Які і наколькі рэальны? Чакаць засталося дзень-два...

Вострыя, неардынарныя акцэнты будуць расстаўлены і пры абмеркаванні іншых пунктаў парадку дня сесіі. Гэта і рэарганізацыя Вярхоўнага Савета, ягоных органаў; і праекты законаў «Аб дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыцы», «Аб асновах мытнай службы РБ», «Аб прафесійных саюзах», «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб пенсіённым забеспячэнні грамадзян», «Аб дзяржаўнай службе», «Аб абароне Рэспублікі Беларусь», «Аб Дзяржаўнай граніцы РБ»... Успыхнуць, несумненна, дыскусіі і пры разглядзе праблем раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, імянных прыватызацыйных рахункаў і ўкладаў, прыватызацыі жыллёвага фонду, працідзеяння манапалістычнай дзейнасці, фарміравання валютных фондаў рэспублікі, стварэння акцыянерных таварыстваў... Наколькі мне вядома, тут ужо ёсць у Беларусі мноства парушэнняў як дзеючага заканадаўства, так і часовых палажэнняў і інструкцый (у прыватнасці, аб прыватызацыі жылля, прычым, дапушчаны гэтыя парушэнні вельмі высокапастаўленымі асобамі, закліканымі стаяць на варце законаў і справядлівасці), так што «пагаварыць» народным выбраннікам ёсць пра што... І пра каго... Выкліча ўзрушэнне і абмеркаванне пытання «Аб рабоце народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь у органах выканаўчай улады рэспублікі»: там, у Савеце Міністраў, Дзяржэканомплане, іншых установах, ужо знайшлі сабе «цёпленькія» месцы дзесяткі парламентарыяў-заканадаўцаў.

...Ніяк не вяжацца гэтакая «дзейнасць» з сапраўднай парламенцкай работай.

Пытанні, пытанні, пытанні... Іх ужо не па аднаму-два, а дзесяткамі і нават сотнямі ставіць перад намі жыццё. Заблыталіся ў іх вырашэнні не толькі асобныя людзі, а і парламентарыі, міністры, прэм'еры і прэзідэнты — усе тыя, каму мы даверылі свой лёс, свой сённяшні, а ў яшчэ большай меры — заўтрашнія дні. У парламенце Рэспублікі Беларусь, вобразна кажучы, ёсць намер зрабіць першы ход канём...

Што ж, «хадзіць» самы час, інакш заўтра можа быць позна. Толькі б не паімкнуліся з нас «зрабіць» пешак! Бо пешкі, акрамя ўсяго іншага, «даведзеныя» да апошняй рысы, становяцца вельмі небяспечнымі.

**Невялічкае рэзюме. Я нікога, крый Божа, не хачу зняважыць, прынізіць, зганьбіць, аблаяць; ні да каго не стаўлю мэты выклікаць падазрэнне, недавер'е, непрыязнасць... Для гэтага газетная старонка не прызначана, а для ўстанаўлення чыёйсьці віны ці прыналежнасці да нечага забароненага — ёсць адпаведныя інстанцыі, органы і сродкі. Проста мне, як і пераважнай большасці маіх суайчыннікаў, надакучыла няпэўнасць, гаротнае існаванне, боязь за заўтра... І я хачу яшчэ раз паўтарыць: наш беларускі народ варты іншага, чалавечага, цывілізаванага жыцця. Пакуль жа мы не жывём, а існуём...**

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## «ДАВАЙЦЕ КІРАВАЦЦА РОЗУМАМ, А НЕ ЭМОЦЫЯМІ»

**Пасля працяглага перапынку сёння вярнуліся да сваёй работы дэпутаты Рэспублікі Беларусь. Нялёгка ім давядзецца цяпер — не тая сітуацыя, што была месяцы два назад. Ці не застаўся ў беларускіх парламентарыяў апошні шанц паказаць сваю дзеяздольнасць, а разам з тым не дапусціць нарастання напружанасці і канфрантацыі?**

**Пажаданні суайчыннікаў дэпутатам напярэдадні іх работы:**

**Уладзімір АФАНАСЕНКА, кандыдат эканамічных навук, Саюз прадпрымальнікаў Беларусі:**

— Пасля таго як на мінулай сесіі быў прыняты грабежніцкі закон аб падаткаабкладанні, мы звярнуліся да шэрагу інстытутаў і незалежных экспертаў з просьбай правесці экспертызу гэтага дакумента. Рост падаткаў выклікаў рэзкае павышэнне цэн, інфляцыя набыла абвальны характар. Што будзе далей — сказаць цяжка. Гэта толькі пачатак. Мы маем намер перадаць гэтыя заключэнні па законе аб падаткаабкладанні і папрасіць народных дэпутатаў уважліва вывучыць іх. Кіравацца ў такой адказнай рабоце трэба здаровым сэнсам, а не асабістым інтарэсам ці выгадамі толькі свайго прадпрыемства.

**— Аляксандр ГВОЗДЗЕЎ, падпалкоўнік запасу:**

— Я ўважліва апошнім часам чытаю газеты і ведаю, што на гэтай сесіі будзе разглядацца праект закона аб статусе ваеннаслужачых. Зрабіць гэта трэба было даўно. У любой справе горш за ўсё няпэўнасць. Я маю сям'ю, уласную кватэру — можна сказаць, забяспечаны ўсім. Але колькі людзей у пагонах не маюць нават уласнага прытулку, не ведаюць, што з імі заўтра будзе, дзе яны апынуцца. Так жыць вельмі цяжка. Мы хочам яснасці і спадзяёмся, што дэпутаты разумеюць гэта.

**Ганна ЯЎСЕЕНКА, рабочая Мінскай швейнай фабрыкі:**

— Ведаеце, я ўжо не веру гэтым людзям і не думаю, што яны змогуць прыняць нейкія важныя законы, каб выцягнуць усіх нас з балота, у якое ж самі і загналі сваёй бяздзейнасцю. А ўсё таму, што яны ставілі на першае месца ідэалогію, і бальшавіцкая псіхалогія, ад якой ужо не пазбавіцца, не дазваляла прымаць законы, якія адпавядалі б часу. Што можна было б пажадаць ім? Павярнуцца да людзей тварам і жыць іх інтарэсамі. У гэтым — прызванне народных дэпутатаў.

## ЦЭНЫ НА РЫНКАХ

**10 САКАВІКА (У РУБЛЯХ)**

**Рыга.** Ялавічына — 80—150, свініна — 85—140, куры — 80—100, масла — 200, алей — 78—80, малако — 20, тварог — 50, смятана — 100—120, яйкі — 30, бульба — 8—9, капуста — 4—5, буракі — 7, морква — 6—8, цыбуля — 20—30.

**Масква.** Ялавічына — 150—200, свініна — 150—200, куры — 100, алей — 60, малако —70, тварог — 70—100, смятана — 100, яйкі — 30, бульба — 10—20, капуста — 15, буракі — 15. морква — 15—20, цыбуля — 40—50.

**Санкт-Пецярбург.** Ялавічына — 150—180, свініна — 100—200, куры — 150—250, масла — 250, алей — 100, малако — 33, тварог — 50—60, смятана — 120—150, яйкі — 20—25, бульба — 10—20, капуста — 15—25, буракі — 15—20, морква — 15—20, цыбуля — 26.

**Мінск.** Ялавічына — 80—90, свініна — 70—100, бараніна — 80—90, масла — 100, алей — 75, малако — 15, тварог — 50, смятана — 80—100, яйкі — 15, бульба — 6—8, буракі — 5—7, морква — 8—10,. цыбуля — 10—12, цыгарэты «Космас» (1 пачак) — 12—15, адзін купон — 15 капеек.

**«Агенцтва РІД».**

## ПА ГРОШАХ І ВЕДЫ

ГРОДНА **(А. Дук).** Тут у Дзяржаўным універсітэце пачала работу школа бізнесу. Слухачы, а іх пакуль што 11 чалавек, за 171 гадзіну змогуць засвоіць усю праграму. Лекцыі чытаюць выкладчыкі універсітэта, але частку заняткаў праводзяць спецыялісты з Беластока. За навучанне трэба заплаціць 4 тысячы рублёў. Але ж за веды ва ўмовах рынку будучыя бізнесмены гатовы заплаціць і больш.

## НА АДНЫХ ДЗЯРЖАЎНЫХ ДАТАЦЫЯХ МЫ НЕ ПРАТРЫМАЕМСЯ

**Гэтая думка неаднаразова праводзілася ў выказваннях намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіла Дземчука, які адказваў на пытанні журналістаў рэспубліканскіх газет, тэлебачання і радыё. Тэма брыфінгу: «Навука, адукацыя, культура ва ўмовах камерцыялізацыі грамадства».**

Патрабуе перагляду фінансаванне нават дашкольных дзіцячых устаноў. Дзяржаве ўтрыманне кожнага дзіцяці абыходзіцца ў 500—600 рублёў у месяц.

Прыблізна столькі ж будзе каштаваць білет у Дзяржаўны тэатр оперы і балета, калі яго пазбавіць усялякіх датацый. Але пакуль справа да гэтага не дайшла, таму са спакойным настроем можаце ісці на «Рамео і Джульету», што цяпер ідзе ў тэатры.

Карэннае рэфармаванне культурнай сферы ўвогуле неабходна ў бліжэйшым часе,— заявіў з усёй катэгарычнасцю Міхаіл Дзямчук. Гэта азначае адмаўленне ад абавязковасці, усеагульнасці і бясплатнасці.

У свой час мы выпусцілі з рук рычаг платнай адукацыі, які прымушаў маладога чалавека біцца за сваю кар'еру. Таму двухузроўневая падрыхтоўка ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі — пытанне бліжэйшага часу.

Дзяржаўныя датацыі ў першую чаргу будуць накіроўвацца на падтрымку новых адукацыйных устаноў (гімназія, ліцэй і г. д.). Ёсць ужо сур'ёзныя прапановы па стварэнню прыватных навучальных устаноў. Іншы падыход да праблем прафесіянальна - тэхнічных вучылішчаў. Пры іх стварэнні праводзілася ў жыццё раскладка: 30 працэнтаў адпушчаных сродкаў накіроўвалася непасрэдна на навучальны працэс, 70 — на сацыяльнае ўтрыманне. Апошні будзе пераглядацца ў бок змяншэння.

Будзе мяняцца падыход і да акадэмічнай навукі. Аказваецца, наш навуковы патэнцыял складаецца з 15 працэнтаў акадэмічнай навукі, 15 — сістэмы вышэйшай адукацыі і 70 — тых вучоных, якія ў асноўным працуюць ці да нядаўняга часу працавалі на абаронны комплекс. І цяпер гэты сапраўды магутны навуковы патэнцыял развальваецца літаральна на вачах. У гэтай сувязі сур'ёзна распрацоўваецца праграма канверсіі многіх рэспубліканскіх прадпрыемстваў. Выстава медыцынскага абсталявання, якая нядаўна прайшла ў Мінску, паказала, што тут існуюць гіганцкія рэзервы.

Ішла сур'ёзная гаворка і пра страты ў фундаментальнай навуцы, пра «ўцечку мазгоў» за мяжу. Намеснік прэм'ера сказаў, што ён ведае асабіста дзесятак-другі лепшых беларускіх вучоных, якія збіраюцца паехаць у пошуках лепшага месца, але ён зробіць усё магчымае, каб гэты працэс неяк прадухіліць.

Адной Акадэміі навук у Беларусі быць не можа. Калі мы сталі на рэйкі поўнай незалежнасці, то ў нас павінны быць і свае педагагічная акадэмія, медыцынская акадэмія, акадэмія мастацтваў і г. д.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

## СПЫНІЦЬ НАСТУПЛЕННЕ НА ПРАВЫ ПРАЦОЎНЫХ!

**З такім заклікам выступіў прэзідыум савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў лістоўцы, якая распаўсюджана ў працоўных калектывах. У ёй гаворыцца, што меры, якія прымае ўрад па сацыяльнай абароне насельніцтва, — яўна недастатковыя. Замест абяцанай стабілізацыі спажывецкага рынку прыпыняюцца заводы, мінімальная заработная плата ў 550 рублёў, якую вызначыў урад, не ў стане забяспечыць дастатковы жыццёвы ўзровень.**

Актывізаваліся наступленні на правы прафсаюзаў з мэтай пазбавіць іх магчымасці абараняць чалавека працы. У распрацоўваемых праектах Канстытуцыі і рада законаў рэспублікі ў прафсаюзаў адбіраюцца нават тыя правы, якія былі ў іх раней, — права кантролю за рашэннямі адміністрацыі па арганізацыі працы і звальненню работнікаў, права на заключэнне калектыўных дагавораў, права заканадаўчай ініцыятывы...

Федэрацыя прафсаюзаў лічыць, што гэтага ў наш трывожны час, калі ніхто не ўпэўнены ў будучым і кожны можа ў любы момант застацца без сродкаў да існавання, — дапусціць нельга. Прэзідыум савета ФПБ звяртаецца да працоўных калектываў, да ўсіх прафсаюзаў і рухаў з заклікам аб'яднацца ў абароне жыццёвых інтарэсаў людзей і падтрымаць прафсаюзныя арганізацыі і прафкомы, якія вырашылі ў дзень адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета 11 сакавіка ў свабодны ад работы час правесці пікетаванне на плошчы Незалежнасці.

## АБ АДКРЫЦЦІ ДЗЕВЯТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Адкрыццё дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання адбудзецца 11 сакавіка 1992 года ў 10 гадзін раніцы ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

### Турызм — пад кантроль рэспублікі

Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч накіраваў урадам дзяржаў СНД, Літвы, Латвіі і Эстоніі тэлеграмы. У іх ён паведаміў, што ў сувязі з узрастаючым патокам грамадзян, якія выязджаюць за мяжу, антысанітарнымі ўмовамі і абмежаванай прапускной здольнасцю пагранпераходу горада Брэста, часова, да адкрыцця новых пераходаў, пропуск турыстычных груп, у тым ліку і школьнікаў, тых, хто едзе аўтамабільным транспартам, арганізаваных паездак па службовых справах, рэйсавых аўтобусаў будзе ажыццяўляцца толькі пасля папярэдняга ўзгаднення з упраўленнем замежнага турызму Дзяржзнешэканомсувязі Беларусі. Групы, якія прыбылі без узгаднення, будуць адпраўляцца назад.

**(БЕЛТА).**

ІДЗЁМ ДА РЫНКУ

## На выступленне—10 хвілін. Ці ўзрушаць яны дэпутатаў?

**Віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь М. Шавельзон зрабіў заяву: «Мы будзем патрабаваць 10 хвілін для выступлення на маючай адбыцца сесіі Вярхоўнага Савета». Аб прычыне з'яўлення гэтай заявы пэўнае ўяўленне даюць нататкі з прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Саюзе прадпрымальнікаў.**

Спачатку колькі слоў з нагоды адной з рэплік, прагучаўшых на прэс-канферэнцыі. Размова зайшла пра эканамічную палітыку ўрада былога прэзідэнта Злучаных Штатаў Р. Рэйгана, вядомую ўсім як «рэйганоміка». Адна з яе асаблівасцей заключалася ў тым, што для стымулявання дзелавой актыўнасці былі зніжаны падаткі з буйных вытворцаў. Вынікі таксама вядомыя: праз год дзяржава атрымала ад гэтых кампаній удвая.

У нас жа дзе трэба і дзе не трэба ўхваляюць заходні вопыт, а вось у падобнай сітуацыі робяць зусім наадварот, што яскрава дэманструе фіскальная сутнасць няўдалага падатковага заканадаўства. Ці здольны беларускі парламент на прынцыпова новы законапраект?

...У даных нататках няма месца, каб дэталёва разглядаць праграму развіцця і падтрымкі прадпрымальніцтва, над якой сумесна працуюць урад рэспублікі і прадстаўнікі айчыннага бізнесу. Паведамім толькі, што ва ўрадзе няблага папрацавалі дзве спецыяльна створаныя альтэрнатыўныя групы, якія займаліся праблемамі падаткаў. У рабоце адной з іх удзельнічаў і М. Шавельзон. Прапановы спецыялістаў, перададзеныя ў Пастаянную планавую і бюджэтна-фінансавую камісію ВС, ужо разгледжаны і пройдуць «атэстацыю» на яго сесіі.

Здавалася б, усім нам трэба радавацца таму, што цвярозыя рыначныя падыходы паступова пачынаюць перамагаць. Павінен, аднак, паважаныя спадары, астудзіць ваш энтузіязм, бо вы яшчэ не ведаеце, якія з'явіліся «сюрпрызы».

Прапаную невялікае адступленне. У Саўміне рэспублікі прыйшлі да вываду аб неабходнасці пры ўрадзе Кансультацыйнага савета па прадпрымальніцтву. Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч таксама ўхваліў ідэю стварэння ў парламенце такой вельмі патрэбнай сёння структуры. Толькі вось пытанне: ці прыме яе наменклатурная большасць у Вярхоўным Савеце, ці прыжывецца яна там? Ці не навяжуць ёй своеасаблівы «рабочы прынцып»: адны пішуць, іншыя (чытай, члены камісіі ВС) чытаюць і... адкладваюць убок?

Гэта, паверце, зусім не развважанні на тэму: любіць — не любіць, падабаецца — не падабаецца. Бо менавіта такі лёс напаткаў прапановы тых дзвюх груп, якія працавалі над праблемамі падатковай палітыкі: у камісіі ВС на іх прапановы не звярнулі ўвагі і не пайшлі на скарачэнне ставак найбольш «важкіх» падаткаў — на дабаўлены кошт, чарнобыльскі, на сацстрах, не пагадзіліся з тым, што неабходна скарачаць расходную частку бюджэту. Калі ж нарэшце народныя выбраннікі спасцігнуць тую ісціну, што жыць трэба па даходах? І адкуль гэтыя даходы наогул возьмуцца? Віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў разглядае сітуацыю наступным чынам:

— Пасля дэбатаў у парламенцкай камісіі я выступіў са сваёй асаблівай думкай. Калі ўсё пакінуць так, як ёсць, то праз кароткі час пад ціскам падатковага прэса разваляцца прадпрыемствы дзяржаўнага сектара, за імі—мы, прадпрымальнікі, а потым затрашчыць і дзяржбюджэт, бо не будзе з каго браць падаткі. Кіраўнікі камісіі ў прыватнай размове кажуць: «Ваша праўда, мы за вашы прапановы, але ж не можам выйсці з імі на сесію, бо Вярхоўны Савет абавязкова іх праваліць». Прабачце, але атрымліваецца, што яны баяцца свайго парламента? Дык тады трэба мяняць яго састаў, уводзячы сапраўдных прафесіяналаў, якія разумеюць, што да чаго. Усё гэта, разам узятае, і прымусіла мяне заявіць, што выступленне на сесіі прадстаўніка нашага саюза проста неабходнае.

Так, прафесіяналізмам пры прыняцці некаторых рашэнняў і не пахне. Узяць хоць бы той жа дарожны фонд, падаткі на стварэнне якога ў ВС скарачаць таксама не думаюць. Усяго і здабыткаў, што ў рабочых дарожна-будаўнічай галіны штучна вырасла зарплата — у 4—5 разоў. А што даў гэты фонд і падатак на яго іншым працаўнікам, усяму грамадству? На каго і дзеля чаго ён працуе?

І яшчэ — хвароба «хвасцізму», калі наш Вярхоўны Савет у сваіх рашэннях, нібы прывязаны, ідзе ў кільватэры расійскага парламента. Нездарма ж выпрацаваўся ледзь ці не тыповы адказ: маўляў, у Расіі таксама засталася высокая стаўка падатку на дабаўлены кошт. І нам, значыць, гэта сам Бог загадаў. Заўважце, аднак, што вядомы эканаміст Р. Яўлінскі, ацэньваючы апошнія вынікі дзейнасці ўрада РФ, адзначыў: ён асабіста хутка будзе прысутнічаць пры «чвартаванні» Я. Гайдара.

Наогул у сферы падаткаў у нашай рэспубліцы ў апошні час усё больш з'яўляецца неабгрунтаваных «навацый», калі для адных прэс завінчваецца да ўпору, а кагосьці пацiху ад платы вызваляюць, некага датуюць. Гэта, відаць, вымушаныя папулісцкія хады, агульнага ж плана падатковай палітыкі пакуль што не відаць.

Як жа дабіцца стабілізацыі ў сацыяльна-эканамічнай сферы? Думкі наконт гэтага ёсць, Саюз прадпрымальнікаў якраз і мае намер прадставіць на сесію Вярхоўнага Савета цэлы пакет сваіх прапаноў. Тое ж збіраюцца зрабіць і ў Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, дзе таксама плануюць выступленне з трыбуны сесіі.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ, аглядальнік «Звязды».**

